Гродна
№21 (456),
20 лістапада 2016

www.slowo.grodnensis.by

# Слова Жыцця

ГАЗЕТА ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ



## ЗАКАНЧЭННЕ ЮБІЛЕЙНАГА ГОДА: ПРЫМІРЫЦЬ МІЛАСЭРНАСЦЬ СА СПРАВЯДЛІВАСЦЮ




*Ва ўрачыстасць Хрыста, Валадара Сусвету, папа Францішак урачыста закрыў галоўныя Брамы міласэрнасці ў рымскай базіліцы св. Пятра. Тым самым у Касцёле быў афіцыйна завершаны Юбілейны год міласэрнасці. Але гэта зусім не азначае, што час ласкі закончыўся. Насупраць, Надзвычайны год стаў для вернікаў нібы ўзлётнай паласой. Юбілей дапамог паглыбіцца ў таямніцу Божай міласэрнасці, адчуць сябе ў абдымках любячага Айца і па Яго прыкладзе навучыцца самаахвярнасці для бліжняга. "Таму духоўна аднўленыя і ўзмоцненыя прагнем вярнуцца да штодзённасці, памятаючы, што нашая пастава адносна бліжніх, асабліва тых, хто найбольш патрабуе дапамогі, з'яўляецца лепшай праверкай глыбіні веры і сапраўднасці нашай любові да Бога", – заўважыў у гаміліі на заканчэнне Года міласэрнасці біскуп Гродзенскі Аляксандр Кашкевіч.*

● працяг на с. 3

## Адвэнт. Перажывём гэты час добра



*Вялікімі крокамі набліжаецца Адвэнт, які распачынае ў Касцёле новы літургічны год. Дадзены перыяд, атаясамліваючыся звычайна з Раратамі і лампіёнамі, што ўводзяць у сімволіку святла і цемры, з'яўляецца выключнай нагодай для духоўнага абуджэння хрысціян. Гэта зручны час, каб адкрыць у сабе смутак па Езусу Хрысту, які мог быць заглушаны штодзённымі справамі і абавязкамі. Шанс, каб паглядзець на сябе праз прызму ўласнага сэрца, таго, што так часта не хочам браць пад увагу.*

● працяг на с. 7

### Каляндар падзей

***20 лістапада***
*Урачыстасць Хрыста, Валадара Сусвету. Дзень малітвы ў інтэнцыі выхавацеляў, выкладчыкаў і клерыкаў Гродзенскай вышэйшай духоўнай семінарыі.*

***22 лістапада***
*Успамін св. Цэцыліі, заступніцы арганістаў, касцёльных хораў.*

***27 лістапада***
*I Нядзеля Адвэнту. Заахвочваем да набожнага і цвярозага перажывання гэтага перыяду.*

***30 лістапада***
*Свята св. апостала Андрэя.*

### Праграмы каталіцкай рэдакцыі

***"Голас Евангелля"***
*Разважанні над Божым словам. Выходзіць на Першым нацыянальным канале Беларускага радыё кожную нядзелю ў 8.00 у Гродне на 96,9 FM, у Свіслачы на 100.8 FM.*

***"Сімвал веры"***
*Тэлеперадача аб рэлігійным жыцці Гродзенскай дыяцэзіі. Выходзіць пры супрацоўніцтве Каталіцкай тэлестудыі Гродзенскай дыяцэзіі і дзяржаўнага тэлебачання на тэлеканале "Беларусь–4". Чарговы выпуск – 6 снежня ў 19.45, паўтор – 7 снежня ў 9.00.*

***Навіны з Ватыкана па-беларуску***
*Радыёвяшчанне з Апостальскай Сталіцы. Штодзённа ў 22.10 на 98,1 FM – у Гродне, Ваўкавыску, Шчучыне, Лідзе, Мастах і побач з гэтымі гарадамі; на 99,2 FM – у Брэсце і побач з ім; у 20.00 на кароткіх хвалях 6185 і 11715 кГц.; у 20.00 і 6.20 на спадарожніку "Eutelsat Hotbird 13" на канале "Radio Vaticana Telepace". Кожную нядзелю ў 8.55 на хвалях Першага нацыянальнага канала Беларускага радыё і на Канале "Культура" Беларускага радыё. У інтэрнэце на старонцы vatican.by.*

### Ружанцовыя інтэнцыі

***Снежань***
*Аб новых і святых пакліканнях да святарскага, манаскага і місіянерскага жыцця з Гродзенскай дыяцэзіі.*

*Аб мужнасці для выбраных ісці за голасам паклікання і аб ласцы трываласці ў служэбе Богу і людзям.*

**"Вернасць у міласэрнасці – сутнасць Бога". Папа Францішак**

## РАЗВАЖАННІ З БОЖЫМ СЛОВАМ

### НЯДЗЕЛЯ ХРЫСТА ВАЛАДАРА
**Лк 23, 35–43**

Насміхаліся з Езуса разам з народам і кіраўнікі, кажучы: "Іншых ратаваў, няхай уратуе сябе самога, калі Ён Месія, выбраны Богам". Таксама і жаўнеры здзекаваліся з Яго. Падыходзілі і падносілі Яму воцат, кажучы: "Калі Ты Кароль юдэйскі, уратуй сябе самога". І быў над Ім надпіс: "Гэта Кароль юдэйскі".

Адзін з павешаных злачынцаў зневажаў Яго, кажучы: "Калі Ты Месія, уратуй сябе і нас". А другі ў адказ дакараў яго і казаў: "Ты нават Бога не баішся, хоць і сам асуджаны на тое самае? Мы асуджаныя справядліва, бо за тое, што зрабілі, атрымліваем. Ён жа нічога благога не зрабіў". І сказаў: "Езу, узгадай мяне, калі прыйдзеш у сваё Валадарства". Езус адказаў яму: "Сапраўды кажу табе: сёння ж будзеш са Мною ў раі".

### НЯБЕСНАЯ АЙЧЫНА

Перажыванне ўрачыстасці Хрыста, Валадара Сусвету, з'яўляецца нагодай, каб у чарговы раз спытацца аб нашым месцы ў доме Айца. Усім вядома, што грамадзянства ў якой-небудзь краіне ці каралеўстве абавязвае да захавання ўстаноўленых норм і правіл, калі яны, канешне, не супярэчаць годнасці чалавечай асобы. Аднак з Валадарствам Хрыста трохі інакш. Зямное жыццё з'яўляецца, у пэўным сэнсе, перыядам, каб здабыць права жыхарства ў нябеснай Айчыне. Праз сакрамант хросту мы былі запрошаны туды, але магчымасць прабывання яшчэ трэба заслужыць. Падобным чынам адбываецца з кімсьці, хто хоча перасяліцца ў іншую краіну: спярша чалавек павінен паказаць сябе асобай, якая шануе нормы, законы, культуру і звычаі гэтага краю. Так і наша хрысціянскае жыццё з'яўляецца такім часам чакання для атрымання права быць грамадзянамі вечнай Айчыны, у якую былі запрошаны Хрыстом Валадаром. Што з гэтым зробім? Гэта ўжо залежыць ад нас.

### І НЯДЗЕЛЯ АДВЭНТУ
**Мц 24, 37–44**

Езус сказаў сваім вучням: "Як было ў дні Ноя, так будзе і ў час прыйсця Сына Чалавечага. Бо, як у дні перад патопам елі, пілі, жаніліся і выходзілі замуж аж да таго дня, калі Ной увайшоў у каўчэг, і не ведалі, пакуль не прыйшоў патоп і не забраў усіх: так будзе і ў час прыйсця Сына Чалавечага. Тады двое будуць у полі: адзін будзе ўзяты, а другі – пакінуты. Дзве будуць малоць на жорнах: адна будзе ўзятая, а другая – пакінутая. Таму чувайце, бо не ведаеце, у які дзень Пан ваш прыйдзе. Бо ведаеце, што, калі б гаспадар дому ведаў у якую варту прыйдзе злодзей, дык не спаў бы і не даў бы падкапаць дом свой. Таму і вы будзьце гатовыя, бо Сын Чалавечы прыйдзе ў тую гадзіну, калі вы не думаеце".

### ЧАРГОВЫ НАПАМІН

Час Адвэнту – асаблівы перыяд. Ён заўсёды перажываецца па-іншаму. Гэтую выключнасць пацвярджае і літургія. Фрагмент Евангелля пра паўторны прыход Збаўцы для кожнага павінен быць, у пэўным сэнсе, устраскай, нагодай для прабуджэння. Бо не аднойчы здараецца, што нашы будзённыя абавязкі і справы настолькі паглынаюць, што асоба Хрыста, праўда пра нястомнае чуванне і чаканне Яго паўторнага прыходу становяцца чымсьці звычайным, паўсядзённым. Можа здарыцца, што чалавек, калі доўга чагосьці чакае, пачынае забывацца пра гэта. Падобным чынам адбываецца ў жыцці хрысціяніна з ісцінай аб паўторным прыходзе Езуса. Мы ядзім, п'ём, ствараем сем'і і, на жаль, забываемся пра сапраўдны сэнс жыцця. Час Адвэнту з'яўляецца своеасаблівым напамінам аб тым. Таму паўторны прыход Пана не павінен быць нечаканасцю ці сюрпрызам, а наадварот – жаданай сустрэчай.

*Кс. Ян Раманоўскі*



## Слова рэдактара
*Кс. Юрый Марціновіч*

*Падышоў да канца Надзвычайны юбілей міласэрнасці. Бачным знакам ласкі гэтага года былі Брамы міласэрнасці, адкрытыя ва ўсім свеце, у тым ліку і ў шасці святынях нашай дыяцэзіі. Вернікі пілігрымавалі да іх, каб выразіць сваю веру ў Збаўцу, памаліцца і атрымаць адпусты.*

# У будучае – з надзеяй

Абвяшчаючы Юбілейны год, папа Францішак хацеў, у першую чаргу, ахінуць нас у любоў Бога, адсланіць аблічча міласэрнага Айца, указаць на Яго адказнасць за кожнага чалавека. Для гэтага неабходна было адкрыцца на таямніцу Бога, які ў Езусе Хрысце, у Яго жыцці і навучанні, пакутах, смерці і ўваскрасенні сапраўды прагне дабра для нас і хоча бачыць усіх шчаслівымі, напоўненымі радасцю і супакоем.

Святы Айцец прыгадаў, што міласэрнасць Бога ніколі не была таннай сугецыяй ці агульнавядомым прыплюшчваннем вока на людскую слабасць і грэх. Яна таксама не з'яўляецца адабрэннем нашых заган. Гэта вызваленне і збаўленне чалавека, таму што Бог не лічыць сябе трыумфатарам, пакуль не ўчыніць так, што праз спачуванне і міласэрнасць знікне грэх і будзе пераможана непрыязнасць.

Разам з завяршэннем чарговага этапа ў жыцці Касцёла заканчваюцца і надзвычайныя ласкі і прывілеі, якія ўдзяляліся ў Юбілейным годзе. Калі па розных прычынах мы не выкарысталі адпаведным чынам гэтую нагоду, ніколі не позна выправіць сваё нядбайства. Хутка распачнецца Адвэнт, а разам з ім і новая надзея на тое, што малымі крокамі, пачынаючы ад сябе, можна паспрабаваць змяніць свет.

Давайце разам несці пасланне любові ў свет! Пастараемся быць неабыякавымі, менш сварыцца, не абгаворваць, ігнараваць плёткі, якія чуем, не прамаўляць вострых слоў. Будзем весці больш добрых размоў, любіць бліжніх, прабачаць. Галоўнае, не забывацца пра падмацаванне сваіх слоў канкрэтнымі ўчынкамі. Практычнае сведчанне жыцця, якое даём у штодзённасці, бясцэннае.

**Брамы міласэрнасці зачынены, а наш Пан Езус Хрыстус і далей застаецца міласэрным. Вучыць любіць і прабачаць. Так і мы павінны пераймаць Збаўцу, каб убачыць Яго міласэрнае аблічча і напоўніцца ласкай і супакоем.**

# Больш за паўвека без славутага храма



**55 гадоў таму была зруйнавана Фара Вітаўта – адна з найпрыгажэйшых каталіцкіх святынь Беларусі. Неад'емная частка гродзенскай ідэнтычнасці праіснавала ў розных архітэктурных варыянтах 600 гадоў. Перажыла пажары і войны. Знішчана ў мірны час у ноч з 28 на 29 лістапада 1961 года.**

Рашэнне пра разбурэнне храма было прынята на пасяджэнні гарвыканкама. Яго мэтазгоднасць тлумачылася планам "генеральнай забудовы горада". На самой жа справе галоўная прычына такога рашэння – моцнае раздражненне партыйных кіраўнікоў колькасцю храмаў у цэнтры горада.

Знішчыць святыню вырашылі з дапамогай узрыўчаткі. Працу даручылі спецыялістам з Ленінграда, якімі кіравала маладая дзяўчына. Калі справа была зроблена, па горадзе пайшлі чуткі, быццам тая моцна захварэла. "Гэта Божае пакаранне", – перагаворваліся мясцовыя жыхары.

На месцы велічнай Фары засталіся толькі руіны. Навакольныя вуліцы пакрыў чырвоны пыл. Гродзенцы, якія былі сведкамі страшнай падзеі, успамінаюць, што касцёл нібыта страшнай рукой быў падняты ўверх, а потым на вачах пачаў таяць."Добра памятаю той дзень, – звяртаецца да мінулых падзей у дакладзе на Нацыянальным эўхарыстычным кангрэсе ў Гродне арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч. – Я ехаў на аўтобусе ў школу. На Савецкай плошчы нехта сказаў: «Усё, касцёла няма»... Пасля ўрокаў пайшоў на плошчу і ўбачыў руіны разбуранай святыні. Гэта была сапраўдная духоўная і культурная катастрофа. Горад у аднасассі страціў свой гістарычны выгляд".

"З самай раніцы ля месца трагедыі маліліся і плакалі людзі, – узгадвае Тэрэза Белавусава, карэнная гарадзенка. – Мой бацька Іосіф Яскілевіч не мог зразумець, як можна было так па-варварску знішчыць унікальны помнік архітэктуры. І вельмі моцна шкадаваў, што нашчадкі не ўбачаць прыгожы велічны храм. Памятаю, тата збіраў на руінах цэглу, якая засталася ад узарванага касцёла. А калі да нас прыязджалі госці, бацька даваў ім на развітанне «часцінку» Фары. Людзей вельмі кранаў гэты жэст. Яны разумелі, наколькі каштоўна атрымаць з рук веруючага чалавека кавалак намоленай вякамі цэглы, у якой хаваецца гісторыя каталіцкай святыні... Успамінаю, як раней дзецьмі разам з бацькам прыходзілі да Фары Вітаўта. Мы з цікавасцю разглядалі масіўныя дзверы, якія ў той момант ужо былі заколачаны дошкамі. Дзівіліся вялікім замочным свідравінам. Тата распавядаў, што ў храме быў вельмі прыгожы алтар. Праз высокія стрэльчатыя вокны ў святыню пранікала шмат сонечнага святла. Яркія промні траплялі на вітражы, і складвалася ўражанне, што людзі пераліваюцца ўсімі колерамі вясёлкі".

**Дзеля папулярызацыі гісторыі і архітэктурнай каштоўнасці святыні была створана папяровая 3D-мадэль Фары Вітаўта. Рэалізаваны мультымедыйны праект "Гародня. 50 год без Фары Вітаўта", у межах якога выдадзена кніга і дыск з унікальнымі фатаграфіямі, гісторыяй існавання і знішчэння храма, успамінамі жыхароў горада і даследаваннямі гісторыкаў.**

### ЧАСТКУ РЭЛІГІЙНЫХ ПРАДМЕТАЎ З КАСЦЁЛА ПАШЧАСЦІЛА ЎБЕРАГЧЫ

Вядома, што перад разбурэннем Фары Вітаўта ўдалося ўратаваць частку аргана. Мясцовыя парафіяне паспелі перанесці яго ў катэдру. Разам з арганам – фігуру Езуса Уваскрослага, келіхі і манстранцыю, а таксама фігуру Маці Божай.

Ацалеў і крыж, што стаяў над табернаклем. У 1943 годзе ён разам з абсталяваннем касцёла быў выкінуты немцамі на вуліцу. Адтуль яго забрала і захоўвала дома Яніна Кур'ята. У 1944 годзе падчас адной з бамбардзіровак усе дамы навокал былі знішчаны, а дом Яніны застаўся цэлым. З таго часу сям'я стала лічыць крыж цудоўным. Пасля II Сусветнай вайны Кур'яты пераехалі ў Элк (Польшча). Аднойчы да іх завітаў з душпастырскім візітам кс. Казімір Храстоўскі. Святар успамінае, як падняў крыж уверх і "на некалькі хвілін рука замерла, пасля чаго, хоць бачыў гэтае распяцце ўпершыню, пачуў уласныя словы: «гэта крыж з касцёла»". Гаспадары пацвердзілі тое і расказалі ксяндзу гісторыю рэліквіі. Затым быў састаўлены дакумент перадачы крыжа. Пазней ён быў змешчаны на алтары ў кляштары ў Сточку.



*У 2014 годзе на месцы зруйнаванага храма быў усталяваны памятны знак*

**Кінга Красіцкая**
*(у тэксце выкарыстаны матэрыялы з кнігі "Гародня Х–ХХ стст. Каралеўскі горад з правінцыйным лёсам" і інтэрнэт-старонкі olsztyn.gosc.pl)*




# ЗАКАНЧЭННЕ ЮБІЛЕЙНАГА ГОДА: ПРЫМІРЫЦЬ МІЛАСЭРНАСЦЬ СА СПРАВЯДЛІВАСЦЮ

● працяг са с. 1

Падчас Года міласэрнасці ў гродзенскім Касцёле адбылося шмат знамянальных падзей. Якраз у гэты час дыяцэзія адзначыла юбілей ад свайго заснавання і прызначэння першага ардынарыя – ксяндза біскупа Аляксандра Кашкевіча. Галоўныя ўрачыстасці прайшлі ў Гродне падчас Нацыянальнага эўхарыстычнага кангрэсу. Важнай падзеяй для дыяцэзіі стала таксама інсталяцыя Гродзенскага катэдральнага капітула Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі і святога Казіміра. Гэта сведчыць аб тым, што структуры мясцовага Касцёла развіваюцца, а разам з імі, і душпастырскае жыццё вернікаў.

Пад дэвізам Юбілейнага года "Міласэрныя, як Айцец" прайшлі такія традыцыйныя мерапрыемствы, як Дні моладзі, Дзень дзіцяці, Парафіяда. Да тэмы Юбілею ў шматлікіх парафіях былі прымеркаваны разнастайныя рэкалекцыі, фэсты, пілігрымкі. Асаблівым духоўным перажываннем для вернікаў стала ўнясенне рэліквій у некаторыя святыні на знак бласлаўлення мясцовых супольнасцей.

На працягу ўсяго гэтага часу ў касцёлах дыяцэзіі няспынна працавалі "адпустовыя" канфесіяналы. Святары дзяжурылі ў іх, каб вернікі маглі ў любы час прыступіць да сакраманту пакаяння. Бо, як заўважыў папа Францішак, "ніводзін чалавечы грэх, якім бы цяжкім ні быў, не можа быць большым за міласэрнасць або абмежаваць яе". Бог гатовы прыняць кожнага, хто робіць хоць крок Яму насустрач.

Штодня з амбонаў нястомна сыпаліся пропаведзі аб міласэрнасці. Верным прапанавалася засродзіцца на галоўным маральным абавязку хрысціяніна – служыць бліжняму ў любові.

На пачатку Года міласэрнасці рэдакцыя прапанавала чытачам нанова адкрыць для сябе добрыя справы. У кожным нумары газеты публікаваліся разважанні наконт учынкаў міласэрнасці. Святары падказвалі, як можна годна іх рэалізаваць. Прычыны павінны былі пабудзіць да дзеяння. Такім чынам, пры ўважлівым і адказным падыходзе "практыкаванні ў міласэрнасці" маглі стаць нагодай для выпрацоўкі добрай звычкі, за якую не сорамна перад Богам. Праз гэтыя духоўныя "трэніроўкі" кожны мог прыпадобніцца да Хрыста, які схіляецца над патрабуючым, або адчуць дотык міласэрнага Збаўцы праз бліжняга. Ці атрымалася ахвяраваць сваё сэрца для іншага, як гэта нястомна робіць Езус?

## ВЕРНІКІ ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ РАСПАВЯДАЮЦЬ ПРА ЎЧЫНКІ МІЛАСЭРНАСЦІ, ЯКІЯ ІМ ДАВЯЛОСЯ РЭАЛІЗАВАЦЬ У НАДЗВЫЧАЙНЫМ ЮБІЛЕЙНЫМ ГОДЗЕ

*У маёй сяброўкі моцна захварэла мама. Урачы паставілі дыягназ – рак. Так сталася, што перад Вялікаднем яна трапіла на лячэнне ў бальніцу. Акурат у гэты час усе выязджаюць з горада. Многія пацыенты адпрошваюцца на свята дамоў. І жанчына засталася ў палаце адна... Так захацелася адведаць хворую! Да таго ж, ведаю яе як вельмі добрага і сціплага чалавека. Мы сустрэліся, паразмаўлялі. Спадзяюся, змагла падзяліцца з ёю святлом Уваскрослага Хрыста, паказаць, што яна не адна... Гэты Вялікдзень быў для мяне асаблівым. Я перажыла сапраўдную радасць, раздзяліўшы яе з патрабуючым чалавекам.*







*Шмат гадоў гродзенская семінарыя падтрымлівае сувязь з домаміінтэрнатам для дзяцей-інвалідаў у Галавічполлі. Аднаго разу падчас канікул не атрымалася арганізаваць групу клерыкаў, каб паехаць туды. Мы з сакурснікам вырашылі накіравацца да дзяцей разам з моладдзю парафіі Ліда-Фара. Даверылі гэтую справу Богу і апублікавалі запрашэнне ў сеціве. На дзіва адгукнулася шмат хлапцоў і дзяўчат. Некаторыя ахвяравалі грошы, хтосьці падтрымаў малітвай, дапамог у арганізацыі даезду. Частка актывістаў разам з намі паехала ў інтэрнат. Як там былі рады! Для ўсіх нас гэта стала чарговай перааценкай каштоўнасцей: як важна перадусім узрастаць у любові да Бога і дзяліцца ёю з тымі, хто побач. І вучыцца таму ўзаемна.*

*У гэтым годзе я амаль перастаў маліцца за сябе. Пачаў прасіць за ўнукаў, якіх у мяне пяцёра. Яны растуць, ім патрэбна духоўная апека. А хто як не Пан Бог найлепей падтрымае? Працую спецыялістам тэрапіі залежнасцей, таму бачу страшную рэальнасць, калі маладыя людзі лёгка трапляюць у рабства алкаголю, наркотыкаў, азартных гульняў. Гэта справы жудасна. Заўважыў за сабой, што пачаў шмат маліцца за людзей, якія лечацца ад залежнасцей, асабліва за тых, якія "зрываюцца". Ім патрэбны сілы. Веру, што заступніцкая малітва мае вялікую моц, адкрываючы патрабуючага на бясконцую крыніцу Божай міласэрнасці.*







*Год міласэрнасці быў вельмі цяжкім для мяне. Я пахавала роднага брата. Адзін Бог ведае, чаму ён сышоў такім маладым. Меў усяго 19 гадоў... Найбольш гаротна перажываў гэтую страту мой старэйшы брат. Як магла падтрымлівала яго. Пасля смерці блізкага чалавека пачала моцна баяцца цемры. Бог дапамог мне перажыць гора. Да гэтага часу цяжка паверыць у тое, што брата больш няма побач. Але я давяраю Богу. Шмат малюся за супакой душы блізкага чалавека. Штомесячна ахвярую св. Імшу ў інтэнцыі вечнага шчасця для брата. Разумею, што мая дапамога палягае на няспыннай і якаснай малітве.*

*Аднойчы я сустрэла жанчыну, з якой у нас здарылася шчырая размова. Яна распавяла пра тое, як здзейсніла аборт. Прызналася, што хоча хадзіць у касцёл, але баіцца асуджэння. Я запэўніла няшчасную схадзіць да споведзі (якраз быў перыяд Вялікага посту), адкрыць сваё сэрца і пакаяцца. І яна паяднілася з Богам... пасля шасцігадовага перапынку! Не ведаю, як склалася далейшае жыццё жанчыны, але дакладна ўпэўнена ў тым, што яна атрымала шанс. А я праслаўляю Бога, які праз мяне надаў жанчыне адвагі схіліць калені перад канфесіяналам.*







*Адзін з галоўных абавязкаў святара – набліжаць людзей да Бога праз сакрамант пакаяння. Выконваючы гэтую паслугу, ксёндз становіцца прыладай у руках Усемагутнага і праз Духа Святога ўказвае чалавеку патрэбны напрамак. У Надзвычайны год міласэрнасці ў гродзенскай катэдральнай базіліцы споведзь праходзіла ў рэжыме нон-стоп. Ля канфесіяналаў збіраліся доўгія чэргі. Даводзілася спавядаць па некалькі гадзін. Цешыла, што людзі вярталіся, пыталіся пра значэнне і магчымасць атрымання адпустаў. Маю надзею, што вернікі нашай дыяцэзіі скарысталі гэты час ласкі спаўна.*

## Рахунак сумлення на аснове спраў міласэрнасці

***...адносна душы***

**НАСТАЎЛЯЦЬ ГРЭШНІКАЎ:** Ці жадаю для сяброў больш за ўсё, каб яны патрапілі на нябёсы? Раблю заўвагі спакойна, без пыхі?

**ВУЧЫЦЬ ТЫХ, ХТО НЕ ВЕДАЕ:** Як часта чытаю Біблію, катэхізіс, рэлігійную літаратуру? Ці прапаную блізкім разам разважаць аб хрысціянскіх каштоўнасцях?

**РАІЦЬ ТЫМ, ХТО СУМНЯВАЕЦЦА:** Клапачуся пра тых, хто адчувае цяжкасці ў веры? Яна для мяне – крыніца жыцця або толькі дадатак?

**СУЦЯШАЦЬ ЗАСМУЧАНЫХ:** Ці веру ў духоўны сэнс выпрабаванняў? Тлумачу сутнасць пакут людзям, зламаным горам?

**ЗНОСІЦЬ ЦЯРПЛІВА ЗНЯВАГУ:** Не бываю занадта эмацыйным, раздражняльным, з'едлівым, калі ўзнікаюць праблемы? Ці няма жадання адпомсціць каму-небудзь?

**ДАРАВАЦЬ АХВОТНА КРЫЎДУ:** Думаю пра тое, што віна бліжняга нашмат меншая, чым уласная віна ў адносінах да Бога? Ці ўсведамляю, што некаторыя крыўды нанесены ненаўмысна?

**МАЛІЦЦА ЗА ЖЫВЫХ І ПАМЕРЛЫХ:** Стаўлюся да малітвы як да таямніцы або прамаўляю яе ў спешцы проста для заспакаення сумлення? Калі малюся, памятаю пра Касцёл, блізкіх, сям'ю?

***...адносна цела***

**НАКАРМІЦЬ ГАЛОДНЫХ:** Ці памятаю пра тое, што ежа – гэта дар Божы? Выказваю ўвагу галодным пачастункам, добрым словам?

**НАПАІЦЬ САСМАГЛЫХ:** Не забруджваю бяздумна навакольнае асяроддзе? Заўважаю, калі людзі маюць патрэбу ў вадзе, спакоі, усмешцы?

**АДЗЕЦЬ НАГІХ:** Ці стаўлюся да цела як да храма Святога Духа? Праяўляю клопат аб патрабуючых, аддаючы ім вопратку і абутак, што не знасіліся?

**ПРЫНЯЦЬ У ДОМ ПАДАРОЖНЫХ:** Ці адкрыты для жыцця, якому неабходны дом любові? Клапачуся пра сваё жыллё, чысціню і парадак у ім?

**АДВЕДАЦЬ ХВОРЫХ:** Памятаю пра тое, што праз хворых і пакутуючых можна дакрануцца да ран Езуса? Не забываюся пра пажылых і нямоглых людзей?

**СУЦЯШАЦЬ ВЯЗНЯЎ:** Ці з'яўляюся рабом нейкай дрэннай звычкі? Не стаўлюся да зняволеных грэбліва?

**ПАХАВАЦЬ ПАМЕРЛЫХ:** Клапачуся аб магілах сваіх блізкіх? Ці гатовы да смерці?

*З кнігі "Езус давярае табе. Іншая кніга аб Божай міласэрнасці"*



***У хуткім часе на партале Гродзенскай дыяцэзіі grodnensis.by выйдзе відэаролік пад назвай "Дзеці аб справах міласэрнасці".***

***Хлопчыкі і дзяўчынкі разважаюць над тым, чым можна суцешыць засмучанага, навошта прыносіць хвораму ў бальніцу пачастункі і як патрэбна прымаць гасцей.***

*Сачыце за абнаўленнямі на сайце!*

***Ангеліна Пакачайла***

## СЛОВА ДЛЯ ЖЫЦЦЯ

***Папа Францішак***



*Уваскрасенне – гэта не толькі факт паўстання з мёртвых, гэта новы від жыцця, які мы адчуваем ужо сёння. Уваскрасенне з'яўляецца асновай хрысціянскай веры і надзеі. Калі б не было ніякіх спасылак на вечнае жыццё, хрысціянства было б зведзена да этыкі і філасофіі. Але пасланне веры паходзіць з нябёсаў. Яго аб'явіў Бог, і яно выходзіць за межы гэтага свету. Вера ва ўваскрасенне мае істотнае значэнне, каб кожны акт хрысціянскай любові не насіў характару эфемернасці або самамэты, але станавіўся семем, якому наканавана квітнець у садзе Божым і прыносіць плады вечнага жыцця.*

*Фрагмент прамовы падчас агульнай аўдыенцыі ў Ватыкане, 9.11.2016*

***Кс. бп Аляксандр Кашкевіч***



*Няма ідэальных сем'яў. У кожнай здараюцца цяжкія, прыкрыя, балючыя сітуацыі. Не заўсёды сямейнае жыццё ідзе так, як павінна. Часам складана зразумець, навошта Бог дапускае той ці іншы вопыт: цяжкую хваробу кагосьці блізкага, залежнасць, крызіс у сужэнскіх ці бацькоўскіх адносінах, матэрыяльныя цяжкасці. Як жа важна тады глядзець у духу на Святую Сям'ю і вучыцца ад яе даверу Пану, цярплівасці, пакоры, узаемнай падтрымцы, ахвярнасці і самапрысвячэнню.*

*Фрагмент гаміліі, прамоўленай падчас Дыяцэзіяльнай сустрэчы сем'яў у Лідзе, 12.11.2016*

***Кс. абп Тадэвуш Кандрусевіч***



*Кім для нас з'яўляецца Бог: суровым суддзёй ці міласэрным Айцом? Як Творца сусвету Ён дае правы, якому павінна быць падпарадкавана ўсё. У той жа час чалавек мае свае жаданні. Імкнецца да неабмежаванай свабоды, прагне прыемнасцей, улады, багацця і г. д. Таму нярэдка ўспрымае Бога як нейкага канкурэнта на сваім жыццёвым шляху, часам нават як інквізітара. Воля Усявышняга здаецца яму непрымальнай і непрыязнай.*

*Але, як паказала яшчэ зусім нядаўняя гісторыя ганенняў на веру, там, дзе няма Бога, чалавек духоўна памірае. А Бог прысутны не толькі ў сваім слове і сакрамантах, але і ў справах міласэрнасці, аб чым сведчаць словы Езуса: "Чаго вы не зрабілі аднаму з гэтых меншых, таго не зрабілі Мне" (Мц 25, 45).*

*Фрагмент пастырскага паслання на завяршэнне Надзвычайнага юбілейнага года міласэрнасці*




◆ *II Еўрапейскі кангрэс у абарону хрысціян адбыўся 4–5 лістапада ў Кракаве. Яго ініцыятар прафесар Рышард Легутка запрасіў спецыялістаў з галіны міжнароднага права, замежнай палітыкі, прадстаўнікоў міжнародных арганізацый і высокапастаўленых прадстаўнікоў Касцёла Блізкага Усходу. Першая частка кангрэсу складалася са сведчанняў, што датычылі пераследу хрысціян. Другую частку прысвяцілі палітычным і прававым пытанням. Мэтай кангрэсу была распрацоўка напрамкаў прававой і палітычнай дзейнасці, якія могуць паўплываць на абмежаванне з’явы пераследу хрысціян.*

◆ *Беларуская пісьменніца Святлана Алексіевіч, якая ў мінулым годзе атрымала Нобелеўскую прэмію па літаратуры, ахвяравала частку ўзнагароджання для шматдзетнай сям’і са Слоніма. “Лічу сваім абавязкам зрабіць так, як сказана ў Бібліі: аддаць дзесяціну”. Пісьменніца дапамагла маладой сям’і Любові і Васіля Равенкаў, якія выхоўваюць шасцёра дзяцей на здымнай кватэры. Пісьменніца зрабіла ўнёсак для льготнага жылля, які сужэнцы не ў стане былі пагасіць, каб атрымаць уласную кватэру.*

◆ *Вядомы футбаліст Філіп Малрайн, які выступаў у нацыянальнай зборнай Паўночнай Ірландыі, а таксама гуляў за “Манчэстэр Юнайтэд”, рыхтуецца стаць святаром. Пасля шматлікіх кантузій Малрайн пакінуў футбольную кар’еру. Працаваў валанцёрам у шматлікіх дабрачынных арганізацыях. Затым уступіў у ордэн дамініканцаў і паехаў у Рым вывучаць філасофію і тэалогію. У верасні бягучага года ён склаў вечныя абяцанні і быў пасвечаны ў дыякана. Летам наступнага года былы футбаліст атрымае святарскія пасвячэнні.*

◆ *Распачаў дзейнасць хрысціянскі партал misyjne.pl. Гэта платформа, на якой можна знайсці інфармацыю з грамадскага жыцця, актуальныя навіны з місійных краін, з жыцця бежанцаў і пераследуемых хрысціян. Галоўны рэдактар misyjne.pl а. Марцін Вжос OMI падкрэслівае, што партал з’яўляецца адказам на заклік папы Францішка. “Мы ўстаём са зручнай канапы і хочам евангелізаваць чарговы, восьмы кантынент, якім з’яўляецца інтэрнэт. Мы як рэдакцыя збіраемся быць місіянерамі гэтай віртуальнай, але важнай прасторы”, – адзначае рэдактар.*

◆ *У Іспаніі выпусцілі дадатак для смартфонаў “Confesor Go”. З яго дапамогай можна знайсці “бліжэйшага” спаведніка. Ксёндз – удзельнік праграмы – інфармуе аб сваёй гатоўнасці прыняць чалавека да споведзі і месцы, дзе ён знаходзіцца. Гэта неабавязкова святыня, але і, напрыклад, парк. Выбраўшы святара, карыстальнік атрымлівае інфармацыю, як лепш дабрацца да месца споведзі і колькі часу трэба на дарогу. Мабільны дадатак з’яўляецца своеасаблівым адказам на вядомую гульню “Pokemon Go”.*

*pch24.pl; niedziela.pl; credo-ua.org*

***Ангеліна Пакачайла***

# Непераможныя ў камандзе з Хрыстом




*Як гаварыў Ян Павел II, спорт – гэта найлепшы шлях да пераадолення межаў*




*Парафіяда збірае дзяцей і моладзь з усёй Беларусі*

**Галоўны супернік чалавека на зямлі – д’ябал. Увесь час ён імкнецца перацягнуць людзей на свой бок. Выкарыстоўвае для гэтага несумленныя метады, корміць пустымі абяцаннямі. На жаль, збочыць з праўдзівага шляху вельмі лёгка. Найлепшым “допінгам” з’яўляецца Эўхарыстыя. Чэмпіёны карыстаюць з яе штодня. Многія святары вучаць гэтаму маладых людзей на практыцы. Ходзяць з імі ў спартыўныя залы, гуляюць у футбол, валейбол, баскетбол, настольны тэніс, нястомна прыпамінаючы пра духоўны складнік любога змагання.**

## У ЗДАРОВЫМ ЦЕЛЕ – ЗДАРОВЫ ДУХ!

Душпастырства спорту і фізічнага выхавання Гродзенскай дыяцэзіі існуе з 2010 года. Апекай ахоплены прафесійныя спартсмены, аматары, трэнерскі штаб, абслугоўваючы персанал, балельшчыкі. Касцёл займаецца, перадусім, выхаваннем маладых людзей. Паказвае магчымасць праслаўлення Бога ў целе. Звяртае ўвагу на тое, як важна клапаціцца аб фізічным здароўі, раскрываючы праз спорт праўду жыцця.



*Святары займаюцца спортам з мэтай прапаведавання сапраўдных каштоўнасцей*

Як заўважыў у адным з інтэрв’ю трэнер мінскага хакейнага клуба “Дынама” Крэйг Вудкрафт, спартсмену ўвесь час неабходна ўдасканальвацца. Як толькі развіццё спыняецца, пачынаецца дэградацыя. ***“Так і ў духоўным жыцці,*** – заўважае душпастыр кс. Артур Малафей. ***– Чалавек штодня павінен аб’яўляць барацьбу са злом. Памятаць, што д’ябал не дрэмле – «мадэрнізуе» грэх. І таму варта трымаць сябе ў тонусе і не расслабляцца. Спорт вучыць быць мэтанакіраваным, працаваць над сабой. Напэўна, шмат у чым сабе адмаўляць, але ўсё гэта дзеля вялікай мэты”.***

Мерапрыемствы, што арганізоўваюцца пад эгідай Касцёла, праходзяць у духу Евангелля. На кожным спаборніцтве прысутнічае святар, адпраўляецца св. Імша. Правіла №1 – культура слова і паводзін на пляцоўцы. У адваротным выпадку – пакаранне ажно да чырвонай карткі. ***“Удзельнікі вучацца ўтрымліваць раўнавагу духа і братэрскія адносіны паміж сабою,*** – зазначае кс. Артур. ***– Вельмі прыемна потым ад трэнераў чуць, што «наша» моладзь іншая. Не ўжывае падчас гульні вострых слоў, перапрашае, калі штосьці не так, цікавіцца станам здароўя адзін аднаго. Неяк мне як арганізатару сказалі: «Калі б усе каманды ў карыстанні спартыўнымі пляцоўкамі былі такімі ж, як вашы, мы маглі б спакойна адпускаць прыбіральшчыц раней з працы». Быццам дробязь, але як гэта характарызуе маладых людзей!”.***

## ХРЫСЦІЯНСКІ СПОРТ – ДЛЯ АДПАЧЫНКУ

З 2005 года ў Слоніме праходзіць турнір па футболе імя св. Яна Паўла II. ***“Можна спрачацца, але гэта факт: найбольш папулярны від спорту ў свеце – футбол,*** – гаворыць кс. Артур. ***– І мы не сталі выключэннем, арганізоўваючы такі турнір. Спачатку былі таварыскія матчы. А потым захацелася заснаваць турнір, які б насіў назву хрысціянскага. Першы матч прайшоў у калядны перыяд. Сабраў шэсць каманд. Вялікім гонарам для нас было выступленне ў ролі суддзі легенды гродзенскай футбольнай каманды «Неман» Дзмітрыя Кавалёнка. Дарэчы, католіка. Мы пазнаёміліся ў катэдральным касцёле, дзе я хрысціў яго дачку”.***

З 2013 года турнір набыў статус нацыянальнага. За 11 гадоў у ім прыняло ўдзел мноства каманд з усёй Беларусі. ***“У наступным годзе плануем зняць узроставыя абмежаванні ўдзельнікаў,*** – зазначае кс. Артур. ***– Гэта будуць не рамкі 17–30 гадоў, а ад 17-ці і старэйшыя”.*** Як заўважае неаднаразовы ўдзельнік турніру Максім Мухляда, такія спаборніцтвы духоўна аздараўляюць. ***“Так, перамога – гэта прыемна, але далёка не галоўнае. Мы прыязджаем сюды для таго, каб ачысціць сваю душу, сустрэцца з добрымі людзьмі. З-за гэтага і атмасфера другая, і гульня адбываецца інакш”,*** – дзеліцца ўражаннямі Максім.

Добрым прыкладам з’яўляюцца і самі душпастыры, якія штогадова прымаюць удзел у чэмпіянаце па мініфутболе сярод святароў. На матчы збіраюцца 4 каманды: па адной з кожнай дыяцэзіі. Прыемна сачыць за поспехамі гродзенскіх святароў, якія на працягу апошніх гадоў з’яўляюцца пераможцамі беларускага турніру і паказваюць добрыя вынікі на еўрапейскім чэмпіянаце.

***“Спорт патрабуе не толькі строгай дысцыпліны і асабістай самаахвярнасці, але і павагі да бліжняга і каманднага духу,*** – заўважыў папа Францішак на аўдыенцыі, удзеленай членам зборнай Германіі па футболе. ***– Гэта вядзе да поспеху, і, у той жа час, да прызнання адказнасці, якая выходзіць за межы футбольнага поля, асабліва ў адносінах да моладзі, якая часта бярэ прыклад са спартсменаў”.***

З 2008 года ў Гродне праводзіцца Дыяцэзіяльная парафіяда дзяцей і моладзі (па прыкладзе міжнароднай). У бягучым годзе ў мерапрыемстве прынялі ўдзел больш за 400 чалавек з 36-ці парафій. На працягу 4-ох дзён хлопцы і дзяўчаты ва ўзросце 11–19 гадоў спаборнічаюць у рамках старажытнагрэчаскай трыяды “Святыня – Тэатр – Стадыён”. ***“Гэта адукацыйна-выхаваўчы праект, які мае на ўвазе ўсебаковае развіццё,*** – тлумачыць душпастыр. ***– Яно ўключае і духоўнасць, і фізіялогію, і інтэлект. Праз удзел у ім маладыя людзі адкрываюць сябе ў розных праявах. Стараемся стварыць для гэтага спрыяльныя ўмовы. Арэндуем Цэнтральны гарадскі стадыён «Нёман». Магчыма, да гэтай пары моладзь не мела магчымасці перажываць спаборніцтвы на добрых пляцоўках, мець справу з прафесіяналамі сваёй справы… А тут яны бачаць узровень і імкнуцца да нечага прыгожага і якаснага”.***

На працягу апошніх 3-ох гадоў у Слоніме ладзяцца “Канікулы з Богам” для спартсменаў. Каля 25-ці маладых людзей з розных парафій дыяцэзіі збіраюцца на тэрыторыі парафіі Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі. “Зборы” уключаюць св. Імшу, кароткія малітвы і трэніроўкі, на якія запрашаюцца футбалісты, плыўцы, гандбалісты. ***“На такую прапанову адгукнуліся нават 2 дзяўчынкі,*** – успамінае кс. Артур. ***– У будучым для дзяўчат плануем арганізаваць заняткі па лёгкай атлетыцы”.*** За гэты час спартыўныя канікулы перажывалі маладыя людзі з Гродна, Ліды, Росі. Геаграфія ўдзельнікаў у далейшым будзе пашырацца.

## ПРАЙГРАВАЦЬ ТАКСАМА ТРЭБА ЎМЕЦЬ

У дадзены час распрацоўваецца ідэя аб арганізацыі каляднага турніру па футболе сярод міністрантаў у 2-юх узроставых катэгорыях: да 14-ці гадоў і старэйшыя. Разглядаецца ідэя аб стварэнні міністранцкай футбольнай лігі. ***“Неабходна дэталёва прадумаць праект,*** – заўважае душпастыр. ***– Хацелася б, каб кожная парафія мела сваю форму, лагатып. Тады ўдзельнікі будуць адчуваць адказнасць, бо прэзентуюць сваю парафію. Разглядаем верагоднасць выступлення каманды з душпастырам. Магчыма, бацькі і сябры захочуць прыехаць пабалець. Нам патрэбны аднадумцы, гатовыя падтрымаць. Больш зацікаўленых людзей – лягчэй усё арганізаваць. Не сакрэт, што вялікую дапамогу аказваюць спонсары, якія забяспечваюць удзельнікаў пляцоўкай, дапамагаюць з транспартам, харчаваннем, пражываннем, прызамі. Без іх наўрад што атрымалася б… Таму ўсё яшчэ на ўзроўні ідэі”.*** Да таго ж, святар задумваецца над фарматам правядзення аплаткавых сустрэч для ўдзельнікаў душпастырства.

***“У аснове любога віду спорту – вынік,*** – заўважае кс. Артур. ***– Няпраўда, што гэта не важна. Пытанне ў тым, якімі сродкамі ён дасягаецца. Спартсмен, як і любы другі чалавек, павінен перамагаць у сумленнай, «чыстай» барацьбе. Не ісці па галавах, забываючыся пра бліжняга. Быць, перш за ўсё, Чалавекам, і толькі пасля – іграком. У сённяшнім свеце часта ўсё ставіцца на кон дзеля перамогі. Але трэба ўмець і прайграваць. І рабіць гэта, як вучыць хрысціянства, годна – прымаць паражэнне з пакорай. Не ўпадаць у роспач, калі наступае момант выпрабаванняў. Не думаць, што жыццё прайграна і далейшага сэнсу ў ім няма. Бо нават самы зацяты грэшнік мае шанс, а, значыцца, і надзею на выпраўленне і навяртанне. У дадатку, пройгрыш заўсёды апускае з нябёсаў на зямлю, ставіць на месца колішняга суперніка і дапамагае зразумець, што працаваць над сабой трэба бясконца”.***

***Ангеліна Пакачайла***

# Іх пакліканне – славіць Бога спевам

**22 лістапада, ва ўспамін св. Цэцыліі, панны і мучаніцы, апякункі касцёльнай музыкі, у Гродне адбудзецца святочны канцэрт дыяцэзіяльнага хору "Cantate Domino". У гэты дзень харысты, для якіх музычная дзейнасць складае вельмі важную частку жыцця, падзякуюць Богу за 17 гадоў існавання калектыву і магчымасць несці людзям святло любові Хрыста.**



*Удзельнікі хору "Cantate Domino" з кардыналам Зянонам Грахалеўскім, папскім легатам на Нацыянальны эўхарыстычны кангрэс у Гродне*

### САКРАЛЬНАЯ МУЗЫКА АБ'ЯДНОЎВАЕ ЛЮДЗЕЙ РОЗНЫХ УЗРОСТАЎ І ПРАФЕСІЙ

Хор "Cantate Domino" быў заснаваны ў 1999 годзе ў гродзенскай парафіі Божай Міласэрнасці па ініцыятыве Генрыха Давідовіча і Антонія Юроўскага. "З Генрыхам мы разам спявалі ў хоры ў гродзенскай парафіі айцоў францішканцаў, – узгадвае Антоній. – Калі на Вішняўцы асвяцілі пляц пад будову касцёла і пачалі ўзводзіць святыню, я выйшаў з прапановай стварыць у маладой парафіі хор. Са сваёй ініцыятывай звярнуўся да ксяндза пробашча, распавёў, што ёсць таленавіты, addаны сваёй справе чалавек, Генрых Давідовіч, які змог бы ўзяцца за кіраўніцтва хорам. Затым Антоній Юроўскі. – Таму з імі прыходзілася шмат працаваць, каб развіць дадзеныя Богам таленты. Магчыма, не кожны рызыкнуў бы ўзяць у калектыў такіх аматараў, але гэтыя людзі так моцна гарэлі жаданнем, што дзякуючы сваёй непарыстасці дасягнулі мэты".

Вось, напрыклад, Яўген прыйшоў у калектыў яшчэ будучы падлеткам. "У той час я быў міністрантам і ў дзень дэбюту хору акурат прыслужваў пры алтары, – распавядае ён. – Мне вельмі падабалася ўшаноўваць Пана Бога праз спеў, таму папрасіўся ў калектыў. Шмат рэпертуару. А ўжо падчас другога канцэрта хору выступаў у яго складзе. Пасля запрасіў сюды сябра. Хор даў нам вялікі штуршок наперад. А яшчэ ў калектыве пазнаёміліся мы ўсе разам абмеркавалі перспектывы развіцця і пачалі «збіраць» калектыў: рабілі аб'явы ў касцёлах, запрашалі знаёмых".

**Спеў хору можна пачуць у Гродне кожную 1-ую нядзелю месяца ў 11.00 у касцёле Божай Міласэрнасці, а таксама кожную 2-ую нядзелю ў 12.00 у катэдральнай базіліцы св. Францішка Ксаверыя.**



*Падчас канцэрта ў гонар св. Яна Паўла ІІ у Цеханаве*

Ва ўспамін св. Цэцыліі 17 гадоў таму было афіцыйна абвешчана аб "нараджэнні" хору. У яго склад увайшла невялікая група людзей. "Сярод першых удзельнікаў мала хто меў музычную адукацыю. У асноўным прыходзілі энтузіясты, якія хацелі спяваць, але не мелі належнай падрыхтоўкі, – гаворыць з дзяўчатамі, якія сталі нашымі жонкамі".

### СПЯВАЕМ ПАНУ!

Рэпертуар узбагачалі паступова. Пачыналі з простых твораў, а пазней, калі ў хоры з'явілася больш людзей з музычнай адукацыяй, пачалі развучваць складаныя і цікавыя кампазіцыі. Сёння ў выкананні хору можна пачуць творы на беларускай, польскай, лацінскай і рускай мовах. Як літургічныя спевы, так і творы вядомых кампазітараў класічнай музыкі. "Для мяне як кіраўніка, – падкрэслівае Генрых Давідовіч, – усе кампазіцыі любімыя, бо сам іх падбіраю. Харыстам найбольш падабаецца "Ойча наш" у апрацоўцы Станіслава Манюшкі, «Верую» Анджэя Фляркоўскага, «Вечнасць». Стараюся, каб кожны год у нашым рэпертуары з'яўляліся новыя творы. Нахненя не шукаю, яно неяк само прыходзіць".

Дзякуючы стараннай працы харыстаў калектыў з кожным годам павышае свой прафесійны ўзровень. Яго запрашаюць з канцэртамі ў розныя парафіі Гродзенскай дыяцэзіі, а таксама за мяжу. За час свайго існавання хор "Cantate Domino" упрыгожыў сваім спевам шмат урачыстасцей, даў шэраг канцэртаў. Сярод найбольш запамінальных – музычнае афармленне св. Імшы з удзелам беларускіх вернікаў у межах Тыдня апекі Маці Божай Вастрабрамскай у Вільні, канцэрт у польскім Цеханаве ў гонар св. Яна Паўла ІІ, выступленне на адкрыцці Нацыянальнага эўхарыстычнага кангрэсу ў Гродне і канцэрт з нагоды 25-годдзя Гродзенскай дыяцэзіі ў гарадскім Доме культуры.

У 2007 годзе ксёндз біскуп Аляксандр Кашкевіч надаў хору "Cantate Domino" статус дыяцэзіяльнага. Сёння яго сталымі ўдзельнікамі з'яўляюцца 40 чалавек. Усе яны розныя па характары, роду занятку, узросце, але аб'ядналі агульнай мэтай – праз спеў спрыяць будаванню Валадарства Божага на зямлі. Гэта, зрэшты, пацвярджае і назва хору. "Дарэчы, накант назвы мы доўга не маглі вызначыцца, – распавядае кіраўнік хору Генрых Давідовіч. – Былі розныя прапановы, але ні адна з іх не прыжывалася. Тады я звярнуўся да ксяндза Яна Кучынскага, пробашча гродзенскай катэдры, з просьбай дапамагчы і параіць нешта слушнае. Святар падумаў і прапанаваў «Cantate Domino», што ў перакладзе азначае «спявайце Пану». Гэтая назва нам адпавядае. Зараз нават жартуем, што ксёндз Ян – хросны бацька нашага хору".

### НАЙЛЕПШАЯ ПАДЗЯКА – КРАНУЦЬ СТРУНЫ ЛЮДСКОЙ ДУШЫ

"Падчас сваіх выступленняў звяртаем увагу на рэакцыю публікі, – гаворыць Генрых Давідовіч. – Калі чалавек, слухаючы творы ў нашым выкананні, узрушыўся, значыць, спеў крануў яго душу. А для нас няма большай узнагароды".

Такога ж меркавання прытрымліваецца харыстка Алёна: "У сучасным свеце людзі моцна патрабуюць духоўнасці. І мы прагнем падзяліцца ёю. Здараецца, што пасля канцэрта падыходзяць людзі і пачынаюць распавядаць, што творы, якія мы выконвалі, яны чулі ў дзяцінстве з вуснаў матулі ці бабулі, просяць перапісаць тэксты. Таму важна, што наша творчасць дазваляе перадаць наступным пакаленням спадчыну, якая засталася ад продкаў альбо была зафіксавана класікамі".

**За час свайго існавання хор запісаў 2 дыскі: з агульным рэлігійным рэпертуарам і калядкамі ды пастаралкамі. Зараз калектыў шукае фінансавай падтрымкі для выдання 3-га альбома.**

Удзельнікі "Cantate Domino", што чалавек, які звязвае сваё жыццё з сакральнай музыкай, сам духоўна ўзбагачаецца, а таксама дапамагае іншым людзям адкрыць свае сэрцы, зрабіць іх чулымі. "Рэлігійная музыка натхняе. Гэта глыбіня душы. Калі спяваеш у касцёле, здаецца, што душа некуды ляціць, – дзеліцца ўражаннямі харыстка Веслава. – Тады ўсё навокал падаецца добрым, прыгожым. Забываешся пра ўсе змрочныя моманты жыцця. Хочацца спяваць, бо атрымліваеш вялікі зарад энергіі і радасці".

**Харысты сустракаюцца не толькі падчас рэпетыцый. Сумесна святкуюць дні нараджэння, шлюбы, праводзяць аплаткавыя і велікодныя сустрэчы.**

Іншая ўдзельніца хору зазначае, што ўжо каля 10-ці гадоў спявае рэлігійныя песні, і гэта прыносіць ёй вялікае задавальненне. "Святы Аўгустын казаў, што спяваючы чалавек двойчы моліцца. Мы выконваем класічныя творы Баха, Манюшкі... Гэта вымагае вялікай працы. Таму стараемся прапускаць кампазіцыі праз сябе і «спяваць душой», каб людзі нас пачулі, – распавядае Яніна. – Прыходзім на рэпетыцыі пасля працы змучаныя. Але стома не адчуваецца, бо спяваем, углядаючыся ў Хрыста, які пазірае на нас з абраза, што вісіць на сцяне ў зале. Аддаём Яму свае сэрцы, напаўняемся радасцю, і, акрыленыя, вяртаемся дадому".

*Кінга Красіцкая*



*За час свайго існавання дыяцэзіяльны хор упрыгожыў спевам шматлікія набажэнствы, урачыстасці і эўхарыстычныя працэсіі*

## З КАТАЛІЦКАГА ДРУКУ

**Catholic.by**

### Ірландскі ляснічы высадзіў хвойнік у форме крыжа

***Кампазіцыя дасягае 100 метраў у даўжыню і 70 метраў у шырыню. Любавацца кельцкім хрысціянскім сімвалам з вышыні можна каля 70-ці гадоў.***

*Аўтар незвычайнай выявы сярод ляснога масіву – мясцовы ляснічы Лайам Эммеры. Сваю працу ён распачаў 10 гадоў таму. На працягу некалькіх гадоў высаджваў хвойныя дрэвы з жоўтымі і аранжавымі іголкамі. Пра гэта ведала толькі жонка Лайама. Яна і пацвердзіла дадзеную інфармацыю, бо сам ляснічы загінуў у 2010 годзе.*

**Radio Vaticana**

### Ватыкан пачынае рыхтавацца да Божага Нараджэння

***Неўзабаве на галоўнай ватыканскай плошчы адбудзецца ўрачыстая інаўгурацыя святочнага дрэва і яслаў.***

*25-мятровая елка сёлета будзе даастаўлена ў Ватыкан з ваколіц мястэчка Скурэле. Святочнае дрэва ўпрыгожаць керамічныя шары, зробленыя дзецьмі з анкалагічных аддзяленняў італьянскіх педыятрычных бальніц. Яслі для галоўнай ватыканскай плошчы стануць дарам Касцёла і ўладаў Мальты. Сцэнаграфія стаенкі нагадае тыповыя мальтыйскія краявіды. У інтэр'ер змесцяць лодку, якая павінна прыпамінаць не толькі пра традыцыйны для гэтага вострава рыбацкі промысел, але і пра сітуацыю шматлікіх бежанцаў, якія ў пошуках новага жыцця спрабуюць пераадолець Міжземнае мора.*

**eKai.pl**

### Старажытнае распяцце з XIV ст. вярнулася ў базіліку св. Пятра

***Крыж – адзін з нямногіх захаваных прадметаў, што знаходзіліся ў першапачатковай ватыканскай базіліцы, збудаванай у IV ст.***

*Распяцце выканана невядомым майстрам. Уяўляе сабой укрыжаванага Езуса, пальцы ног якога курчацца ад болю, вены набухаюць ад напружання, а грудная клетка падымаецца ў апошнім спазме агоніі. Торс і ногі выразаны з пня грэцкага арэха. Галава і рукі створаны асобна з таго ж дрэва. Адрэстаўраванае драўлянае распяцце змесцяць у капліцы Найсвяцейшага Сакраманту.*

*Кінга Красіцкая*

## Рэкалекцыі для дзяўчат прайшлі ў Адамавічах

*Духоўныя практыкаванні пры парафіі Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі арганізавалі сёстры кармэліткі.*

Удзельніцы рэкалекцый мелі магчымасць больш бліжэй пазнаць Бога і засяродзіцца на ўзаемаадносінах з Ім. Кожны дзень пачынаўся і заканчваўся супольнай малітвай падзякі. Разважаючы над тэкстамі Евангелля, дзяўчаты пазнавалі Езуса добрага Пастыра, які заўсёды шукае сваіх "авечак" і для гэтага пасылае на іх шляху розных людзей і разнастайныя жыццёвыя сітуацыі. Удзельніцы духоўных разважанняў задавалі сабе пытанні: "Чаму губляемся ў жыцці?", "Як Езус нас знаходзіць?", "Каго выбіраем: Бога ці мамону?". Глыбей разважалі над падобнымі рэчамі падчас адарацыі Найсвяцейшага Сакраманту.



## "Мы павінны быць сведкамі міласэрнага Хрыста"

*З нагоды заканчэння Года міласэрнасці ў гродзенскім катэдральным касцёле св. Францішка Ксаверыя была цэлебравана ўрачыстая св. Імша. Разам з тым біскуп Аляксандр Кашкевіч закрыў Святыя дзверы, якія на працягу Юбілейнага года з'яўляліся Брамай міласэрнасці, прайшоўшы праз якую, можна было атрымаць адпуст.*

Літургію пад кіраўніцтвам гродзенскага ардынарыя ўпрыгожыў спевам хор "Cantate Domino". У гаміліі іерарх разважаў над бязмежнай міласцю Усемагутнага і заклікаў сабраных практыкаваць міласэрнасць у штодзённым жыцці. На заканчэнне св. Імшы біскуп асвяціў памятны знак Года міласэрнасці, які быў загадзя ўмураваны ў сцену касцёла.

У гэты ж дзень урачыстасці з нагоды закрыцця сімвалічных Брам міласэрнасці прайшлі ў лідскім касцёле Узвышэння Святога Крыжа, санктуарыях Маці Божай Тракельскай, Маці Божай Гудагайскай, Маці Божай Барунскай, Езуса Журботнага ў Росі.



## Сустрэча шанавальнікаў Маці Божай з Гары Кармэль адбылася ў Гродне

*Спатканне распачалося св. Імшой у парафіі Найсвяцейшага Адкупіцеля.*

Эўхарыстыю ўзначаліў а. Аляксандр Стока OCD. У гаміліі святар адзначыў, што айцы кармэліты прагнуць, каб сустрэчы шанавальнікаў Маці Божай Шкаплернай збіралі на сумеснай малітве шматлікіх вернікаў Гродна і ваколіц. "Мэтай спаткання з'яўляецца стварэнне супольнасці, якая хоча пазнаваць і развіваць кармэліцкую духоўнасць, паглыбляць унутраную малітву, карыстаючыся духоўным досведам святых папярэднікаў", – падкрэсліў айцец.

У рамках першай сустрэчы адбылася адарацыя Найсвяцейшага Сакраманту. Прысутныя перапрасілі Бога за грахі, якія крыўдзяць Беззаганнае Сэрца Марыі.



Сустрэчы шанавальнікаў Маці Божай з Гары Кармэль, і тых, хто носіць святы шкаплер, будуць праходзіць кожную першую суботу месяца пры касцёле Найсвяцейшага Адкупіцеля ў Гродне (вул. Курчатава, 41). Бліжэйшае спатканне – 3 снежня.

## Семінарысты наведалі дзіцячы дом-інтэрнат у Галавічполлі

*Перажыты час стаў для будучых святароў чарговым заклікам несці пасланне Евангелля для абяздоленых, хворых і пакінутых людзей.*

У Галавічполлі знаходзяцца дзеці з асаблівасцямі псіхафізічнага развіцця, якія пазбаўлены бацькоўскай любові і клопату. Працаўнікі дома-інтэрната праз ахвярную працу штодня імкнуцца ствараць для іх атмасферу даверу і ўзаемападтрымкі.

"Наша Нябесная Маці! Шчыра верым, што Ты заўсёды знаходзішся побач з намі і падтрымліваеш у цярпеннях кожнага, хто да Цябе звяртаецца. Горача просім, атуляй сваёй неспасцігальнай мацярынскай апекай так блізкіх нашаму сэрцу дзяцей. Тваёй абароне аддаёмся, Святая Багародзіца", – маліліся навучэнцы Гродзенскай вышэйшай духоўнай семінарыі супольна з жыхарамі дома-інтэрната.



## Pro-life мерапрыемствы прайшлі пры парафіі св. Міхала Арханёла ў Навагрудку

*Лекцыі і майстар класы былі прысвечаны абароне ненароджанага жыцця і сямейным хрысціянскім каштоўнасцям.*

Pro-life праграма арганізоўвалася па ініцыятыве пробашча парафіі кс. Юрыя Жэгарына пры падтрымцы дабрачыннага фонда "Адкрытыя сэрцы" і Навагрудскага райвыканкама.

У межах мерапрыемства працавала выстава "Ёсць два шляхі: шлях жыцця і шлях смерці", дзе былі прадстаўлены дэмаграфічныя праблемы сучаснага свету: трагедыя адмовы ад нараджэння дзяцей, шкода кантрацэпцыі і абортаў для духоўнага і фізічнага здароўя мужа і жонкі. Праграма ўключала лекцыі для медыцынскіх і сацыяльных работнікаў, настаўнікаў і работнікаў культуры, а таксама семінар па падрыхтоўцы лектараў з выдачай адпаведных сертыфікатаў.

На заканчэнне pro-life мерапрыемстваў арганізатары наведалі навучальныя ўстановы Навагрудка і ваколіц. Каля паўтары тысячы маладых людзей пачулі пра вартасць перадшлюбнай чысціні.



## Біскуп Юзаф Станеўскі наведаў з пастырскім візітам парафію ў Юрацішках

*Іерарх сустрэўся з членамі Супольнасці Жывога Ружанца і Апостальства дапамогі чысцовым душам, наведаў мясцовую бальніцу і школу.*

У касцёле Перамянення Пана біскуп цэлебраваў св. Імшу. Звяртаючыся да вернікаў у гаміліі, іерарх засяродзіў увагу на важнасці пераемнасці пакаленняў. "Мы, хрысціяне, павінны не толькі слухаць слова Божае і жыць ім, але таксама праз свае паводзіны і ўчынкі перадаваць веру нашчадкам", – адзначыў біскуп Станеўскі.

Напрыканцы іерарх разам з пробашчам і парафіянамі памаліліся на магіле кс. Антонія Твароўскага, былога душпастыра парафіі, закатаванага ў 1939 годзе.



## "Еднасць сям'і Савіо"

*Сустрэча пад такім дэвізам прайшла ў смаргонскім Савіо-клубе. Яна ўключала супольную малітву, гульні, працу ў групах і кінапрагляд.*

Арганізатары хацелі, каб удзельнікі адчулі сябе вялікай сям'ёй і пазналі адзін аднаго бліжэй. Між іншым, хлопцы і дзяўчаты мелі час, каб паразважаць над тым, як трэба правільна перажываць св. Імшу. Задавалі сабе пытанні: наколькі ўсведамляюць свой удзел у кожнай частцы літургіі, як доўга Езус прабывае ў іх пасля прыняцця Святой Камуніі.

Паколькі сустрэча прыпала на актаву ўрачыстасці Усіх Святых, моладзь наведала магілкі і памалілася на ружанцы ў інтэнцыі памерлых са сваіх сем'яў.



## АНОНСЫ

### ТРАДЫЦЫЙНУЮ АКЦЫЮ "ПЯЧЭНЬКА ЗА ПЯЧЭНЬКУ" АРГАНІЗУЕ ДУШПАСТЫРСТВА МОЛАДЗІ "OPEN"

**Дабрачыннае мерапрыемства на карысць дзяцей з асаблівасцямі ў развіцці пройдзе ў гродзенскім катэдральным касцёле 27 лістапада, у першую нядзелю Адвэнту.**

Пасля кожнай св. Імшы малады людзі будуць раздаваць за ахвяраванні ўласна зробленае печыва. Любы жадаючы можа прыняць удзел у акцыі: спячы пячэнне і перадаць яго валанцёрам або скласці ахвяру, атрымаўшы за гэта пачастунак.

*Дадзеная акцыя праводзіцца душпастырствам "OPEN" на працягу некалькіх гадоў. Атрыманыя сродкі накіроўваюцца ў Гродзенскі цэнтр карэкцыйна-развіваючага навучання і рэабілітацыі.*

### XIV РЭКАЛЕКЦЫІ ЦВЯРОЗАСЦІ ПРОЙДУЦЬ У ГРОДНЕ

**Духоўныя практыкаванні адбудуцца ў гродзенскім касцёле Звеставання Найсвяцейшай Панны Марыі** *(вул. К. Маркса, 27)* **25–27 лістапада.**

**Праграма:**

**25 лістапада, пятніца**

18.00 – прывітанне;
19.00 – св. Імша;
20.30 – адкрыты сход групы ўзаемадапамогі для залежных, іх родных і блізкіх.

**26 лістапада, субота**

10.00 – канферэнцыя;
11.30 – Крыжовы шлях;
– перапынак;
15.00 – падрыхтоўка да сакраманту пакаяння, споведзь, адарацыя Найсвяцейшага Сакраманту;
17.00 – св. Імша;
– перапынак;
19.00 – сходы груп узаемадапамогі для залежных, іх родных і блізкіх.

**27 лістапада, нядзеля**

9.00 – св. Імша;
10.30 – канферэнцыя;
12.00 – абмен уражаннямі, завяршэнне рэкалекцый.

*Усім прыезджым прадастаўляецца начлег.*
*Даведкі па тэлефонах: (8-029) 869-60-88 – кс. Аляксандр Пятровіч; (8-0152) 50-20-86, (8-033) 325-57-64 – Юрый Гапонік.*

### РУЖАНЕЦ ПРАЗ SKYPE З'ЯДНАЕ МОЛАДЗЬ ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ

**8 снежня, ва ўрачыстасць Беззаганнага Зачацця НПМ, у гродзенскім пабрыгіцкім касцёле моладзь памоліцца на ружанцы з дапамогай інтэрнэт-сувязі Skype.**

Падчас набажэнства маладыя людзі будуць разважаць над тэмай "Марыя – прыклад чысціні і цнатлівасці". Ружанец адбудзецца пасля вячэрняй св. Імшы, якая пачнецца ў 19.15.

*Да ўдзелу ў малітве запрашаюцца ўсе жадаючыя.*

**Ад імя свайго і ўсёй сям'і прагну сардэчна падзякаваць ксяндзам біскупам Аляксандру Кашкевічу і Юзафу Станеўскаму, святарам, дыякану, клерыкам, манаскім сёстрам і ўсім вернікам, якія прыбылі на пахаванне майго бацькі с.п. Генрыха Быкоўскага.**

20 лістапада 2016 г. ва ўрачыстасць Хрыста, Валадара Сусвету, у парафіі Вялікія Эйсманты на знак маёй удзячнасці і прызнання будзе адпраўлена св. Імша ў інтэнцыі ўсіх, хто разам з намі перажываў сумныя хвіліны развітання з нашым бацькам, мужам і дзядулем.

*Кс. Валерый Быкоўскі з мамай і роднымі*

### У малітве ўспамінаем памерлых душпастыраў:

**24 лістапада 1966 г.** – кс. д-р Севярын Яноўскі, *проб. Вавёрка;*
**25 лістапада 1949 г.** – кс. кан. Міхал Маеўскі, *душп. Мінойты;*
**29 лістапада 1995 г.** – кс. Тадэвуш Лась SCJ, *душп. Лядск;*
**3 снежня 1964 г.** – кс. Станіслаў Смялоўскі, *проб. Казловічы;*
**3 снежня 2002 г.** – кс. Юзаф Кісель, *проб. Вішнева.*

*Пры падрыхтоўцы навін выкарыстоўвалася інтэрнэт-старонка* ***grodnensis.by***

# Адвэнт. Перажывём гэты час добра

● працяг са с. 1

***Перш чым увойдзем у прыгожы літургічны перыяд, давайце засяродзімся над тым, як яго перажыць найлепш. Якім чынам падрыхтавацца да Божага прыходу: не толькі святочнага, але і таго, які хрысціянін павінен чакаць з вялікім жаданнем у кожны момант – апошняга?***

## Адкрыць сваё сэрца

Бог чакае кожнага чалавека, як Адама ў раі. Кліча, як Закхея са смакоўніцы. "Хутчэй спускайся, бо сёння Мне трэба быць у тваім доме" (Лк 19, 5). Езус хоча ўвайсці не толькі ў наш дом – ва ўсё жыццё.

Адвэнт неабходны для таго, каб адкрыць сэрца на прагу быць побач з Богам, як Закхей. Не зусім зразумела, як гэта зрабіць? Спосаб вельмі просты – заплануем час на добрую споведзь і адпаведна да яе падрыхтуемся.

## Прыслухацца да слоў Пана

У час Адвэнту мы павінны навучыцца слухаць Божае слова. "Няведанне Святога Пісання – гэта няведанне Хрыста", – казаў св. Геранім. Але звяртацца трэба не толькі да Бібліі, але і да таго, што Пан перадае нам у цішы сэрца ці праз людзей, якіх сустракаем. Няхай Божае слова стане адвэнтавым "хлебам", з якога будзем карыстацца штодня.

## Стварыць атмасферу чакання

Адвэнт – час пабожнага і радаснага чакання прыходу Хрыста. У перажыванні гэтага перыяду дапамагае стварэнне адпаведнай атмасферы. Давайце прымем удзел у Раратах, каб у змроку, прасякнутым бляскам свечак, разам з Марыяй чакаць збаўлення, якое свету прынесла нараджэнне Збаўцы.

## Запаліць свечку

Каб падчас Адвэнту настрой у нашых дамах быў выдатны, разам з усімі членамі сям'і можна сплесці вянок з 4-ма свечкамі. Іх неабходна штодзённа запальваць падчас пасілку, кожную нядзелю павялічваючы колькасць агеньчыкаў. Свечка абазначае Езуса: "Я – святло свету. Хто ідзе за Мною, той не будзе хадзіць у цемры, але будзе мець святло жыцця" (Ян 8, 12). Адвэнтавы вянок – сімвал сям'і, якая чакае і рыхтуецца годна сустрэць Хрыста ў Бэтлееме, а таксама ў дзень Яго паўторнага прыходу на зямлю. Круглая форма вянка азначае, што Бог вечны, які не мае пачатку і канца. Выкананне з галінак вечназялёных хвойных дрэў указвае на вечнае жыццё, якое Збаўца дае ўсім, хто ў Яго верыць.

## Зрабіць пастанову

Адвэнт – гэта таксама час падрыхтоўкі сэрцаў на прыход Пана. Найлепшым спосабам перамянення з'яўляецца здзяйсненне дабра ў сваім асяроддзі, выкананне ўчынкаў, што вынікаюць з любові, згодна са словамі Хрыста: "Тое, што вы зрабілі аднаму з гэтых братоў Маіх меншых, вы Мне зрабілі" (Мц 25, 40).

Маленькім вернікам прапануем цудоўны адвэнтавы звычай – збіранне сена добрых учынкаў. У першую нядзелю Адвэнту няхай кожны атрымае ад сваіх бацькоў пустыя яселькі. З гэтага часу штодня падчас вячэрняй малітвы робіць рахунак сумлення і за ўсякі добры ўчынак кладзе адну саломінку сена ў яслі. Гэта будзе дарам для Божага Дзіцятка на ўспамін Яго нараджэння.



***Так, як бацькі, чакаючы нараджэння дзіцяці, павінны падрыхтаваць сябе і дом да з'яўлення новага члена сям'і, так і мы ў Адвэнце павінны аднавіць нашыя сэрцы: ачысціць іх ад грахоў, "упрыгожыць" добрымі ўчынкамі, каб маленькаму Езусу спадабалася. Варта ўсведамляць, што прыходзіць Хтосьці выключны, хто пераверне нашае жыццё да гары нагамі, прынясе неверагодную колькасць любові і дабрыні.***

**Кс. Юрый Марціновіч**



ЖЫЦЦЁ КАСЦЁЛА Ў АБ'ЕКТЫВЕ

# Сустрэча сем'яў Гродзенскай дыяцэзіі адбылася ў Лідзе

Спатканне сёлета праходзіла пад дэвізам "Сям'я – школа міласэрных паводзін". На сустрэчы сабралася шмат сужэнстваў разам з дзецьмі з розных парафій дыяцэзіі. Сярод іх – сем'і, якія ў гэтым годзе перажываюць юбілей шлюбу, а таксама тыя, хто толькі заключыў сакраментальны сужэнскі саюз. Прысутныя супольна дзякавалі Богу Стварыцелю за дзівосны, цудоўны дар, якім з'яўляецца сям'я.












## Лепш пытаць, чым памыляцца

***Ці існуюць выпадкі, калі Касцёл дапускае стэрылізацыю? Якое мае стаўленне да працэдуры перавязкі матачных труб дзеля таго, каб адкласці цяжарнасць?***

*Стэрылізацыя дапушчальная ў тым выпадку, калі матка пасля родаў або з-за кесарава сячэння пашкоджана настолькі, што па медыцынскіх паказаннях неабходна яе поўнае выдаленне (гістэрактамія), каб пазбегнуць сур'ёзнай небяспекі для жыцця і здароўя маці. Праводзіць такую аперацыю дазваляецца, паколькі яна мае непасрэдна тэрапеўтычны характар, хоць і прадбачыцца канчатковае бясплоддзе.*

*У выпадку, калі матка (напрыклад, пасля родаў) знаходзіцца ў стане, які не пагражае непасрэдна жыццю і здароўю жанчыны, але мяркуецца, што яна не зможа вынасіць цяжарнасць без рызыкі (нават сур'ёзнай) для яе, то выдаляць матку недапушчальна. Непрымальным з'яўляецца таксама замена гістэрактаміі працэдурай перавязкі матачных труб, улічваючы, што праследуецца тая ж мэта (папярэджанне верагоднай цяжарнасці), але з дапамогай менш складанай працэдуры для ўрача і менш рызыкоўнай для жанчыны.*

*Апошнія два прыклады падпадаюць пад катэгорыю прамой кантрацэпцыі, якая асуджаецца Касцёлам. Але існуюць іншыя маральна дапушчальныя шляхі пазбягання цяжарнасці.*

*Перш за ўсё, маюцца на ўвазе метады натуральнага планавання, заснаванага на распазнанні плодных і няплодных дзён жаночага цыклу. Звяртаючыся да гэтых спосабаў, хрысціянін ідзе шляхамі Божымі, не парушаючы задуму Пана адносна чалавечай сексуальнасці. "Ужыванне такіх метадаў заснавана на пашане да цела мужа і жонкі; яно падтрымлівае пяшчотную сувязь паміж сужэнцамі і спрыяе выхаванню сапраўднай свабоды" (Катэхізіс каталіцкага Касцёла, 2370). Гэты метад патрабуе пэўных намаганняў і кантролю над сабой, паколькі прадугледжвае назіранне і перыяды ўстрымання.*

*Метады натуральнага планавання, заснаваныя на саманазіраннях жанчыны (такія, як сімптатэрмальны), мала вядомыя на постсавецкай прасторы, у тым ліку і сярод урачоў. Яго надзейнасць значна вышэй надзейнасці штучнай кантрацэпцыі. Натуральнае планаванне – гэта свядомы падыход да сужэнскіх адносін. Пры правільным яго ўжыванні муж і жонка дастаткова матываваныя, каб практыкаваць перыядычнае ўстрыманне, вучыцца кантраляваць свае інстынкты і паважліва ставіцца да любімага чалавека.*

*Навучыцца гэтым метадам можна ў Каталіцкай сямейнай кансультацыі, якая знаходзіцца па адрасе: г. Гродна, вул. К. Маркса, 24. Кансультант па сямейным жыцці і інструктар па планаванні сям'і прымаюць па серадах з 18.00 да 20.00. Папярэдне азнаёміцца з сімптатэрмальным метадам можна ў кнізе А.А. Шмакава "Метады распазнання фертыльнасці, ці калі магчыма зачацце" або Яцка Пулікоўскага "Жыць у гармоніі з чалавечай натурай". Набыць кнігі можна ў дыяцэзіяльнай краме па адрасе: г. Гродна, вул. К. Маркса, 4.*

***Кс. Аляксандр Сямінскі***
*паводле grodnensis.by*

# ЧАМУЧКІ
## Дзіцячая рубрыка



# Чаму нараджаюцца дзеці?

Большасць людзей у дарослым узросце ствараюць сем'і. Знаходзяць блізкага чалавека, жывуць з ім у любові і ўзаемаразуменні, разам нараджаюць і выхоўваюць дзяцей, цешацца іх поспехам, перадаюць свае веды і вопыт...

На працягу многіх тысяч гадоў людзі нараджаюцца, затым сталеюць, старэюць і паміраюць. Дзякуючы з'яўленню на свет дзяцей пакаленне людзей аднаўляецца. За нашчадкамі – будучыня чалавецтва! Калі б дзеці не нараджаліся, чалавечы род спыніўся б.

Сярод шматлікіх народаў і народнасцей, якія жывуць на планеце, ёсць настолькі малалікія, што ім у бліжэйшы час пагражае знікненне (асабліва калі з пакалення ў пакаленне нараджаецца ўсё менш і менш дзяцей). Таму вельмі важна, каб былі нашчадкі. Дзеці не толькі прыносяць радасць сваім бацькам, бабулям і дзядулям, але і даюць упэўненасць у будучыні народа і чалавецтва ў цэлым.

### Заданне:

Намаляваць або зрабіць фотаздымак сваёй сям'і і напісаць на ім Дзень нараджэння кожнага яе члена. Паставіць дома на бачнае месца.




**Чакаем Тваіх "чаму", якія можаш дасылаць на адрас рэдакцыі.**

На пытанні заўсёды гатовыя адказаць с. Вераніка Блізнюк FMA, салезіянскія аніматары Ганна Семак і Вераніка Рогач са Смаргоні.

***Пры падрыхтоўцы рубрыкі выкарыстаны ўрыўкі з кнігі Ігара і Андрэя Баранавых "Тата, адкажы мне, чаму..."***

# Ад шчырага сэрца

**Паважанаму Ксяндзу Вітольду Лазавіцкаму**

з нагоды Імянін жадаем шмат Божых ласкаў, шчодрых дароў Святога Духа, людской дабрыні, поспехаў і шмат радасці. Няхай міласэрны Бог благаслаўляе кожны дзень Вашай святарскай паслугі. Шчасці Божа!

*Былыя парафіяне з в. Галавенчыцы*

**Паважанаму Ксяндзу Андрэю Казлоўскаму**

з нагоды Імянін перасылаем букет найлепшых пажаданняў: здароўя, душэўнага супакою, апекі Маці Божай і святога Заступніка. Няхай міласэрны Бог адорвае Вас сваім благаслаўленнем.

*Удзячныя парафіяне з Малой Бераставіцы*

**Паважанаму Ксяндзу Андрэю Зайко**

з нагоды Імянін жадаем моцнага здароўя на доўгія гады, цярплівасці, стойкасці ў святарскай паслузе, усіх Божых ласкаў, дароў Святога Духа ў абвяшчэнні Божага слова і добразычлівых людзей на святарскім шляху. Няхай добры Бог благаслаўляе Вас, а Найсвяцейшая Маці трымае ў сваёй апецы.

*Былыя парафіяне з Рэплі*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Яну Рушніцкаму**

з нагоды Дня нараджэння жадаем моцнага здароўя. Няхай Езус заўсёды Вас благаслаўляе ў душпастырскай паслузе і шчодра ўзнагароджвае за працу. Няхай кожны дзень будзе напоўнены сонцам, радасцю і шчасцем, а Панна Марыя нястомна ахінае плашчом мацярынскай апекі і любові.

*Парафіяльны камітэт і вернікі з Каробчыцаў*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Яну Рушніцкаму**

з нагоды Дня нараджэння перасылаем сардэчныя пажаданні: моцнага здароўя, шчодрых Божых ласкаў, усмешкі на кожны дзень і ўсіх дароў Святога Духа. Няхай Маці Божая заўсёды Вамі апекуецца, Пан Бог вядзе праз жыццё, а Дух Святы асвячае святарскі шлях.

*Сям'я Стэцкевічаў і Васільевых*

**Дарагія Юбіляры Здзіслава і Антоній Цыдзікі!**

З нагоды цудоўнай гадавіны 65-годдзя шлюбу перасылаем самыя сардэчныя пажаданні. Божага благаслаўлення і апекі Маці Божай.

Ужо шмат гадоў ідзеце поруч,
Пярсцёнкі Вашы працёр час,
Столькі нягод сустрэлі побач...
Каханне, усё ж, жыве ў Вас.
Ідзіце ўсцяж адной дарогай,
Бо Вашы мары шмат што могуць.
Сто гадоў!

*Дзеці, унукі, праўнукі і ўнучка Юлія з сям'ёй*

**Паважанаму Ксяндзу Андрэю Пышынскаму**

з нагоды Імянін ад усяго сэрца жадаем доўгіх гадоў жыцця, радасці і шчасця, моцнага здароўя і ўсіх Божых ласкаў. Вялікі дзякуй за бездакорную працу ў нашай парафіі. Няхай кожны новы дзень дорыць Вам толькі добрыя весткі, сэрца не кранаюць трывогі і смутак, а праца прыносіць задавальненне. Няхай наша святыня заўсёды будзе сапраўдным Божым домам, дзе не сціхае шчырая малітва, дзе кожнага прагнучага чакае Божае слова і Эўхарыстыя. Няхай Ваш шлях служэння будзе доўгім, і міласэрны Бог шчодра Вам за гэта аддзячыць. Шчасці Божа!

*Парафіяне і члены Апостальства дапамогі чысцовым душам з Рандзілаўшчыны*

**Паважанаму Айцу Андрэю Зую**

з нагоды Імянін жадаем моцнага здароўя, шчасця, душэўнага супакою, здзяйснення ўсіх мар, запалу да працы, сіл, стойкасці на выбраным жыццёвым шляху, а таксама бязмежнай радасці і сонца над галавой і ў вачах. Няхай добры Бог благаслаўляе Вас кожны дзень.

*Удзячныя парафіяне з Ліпнішкаў*

**Дарагому Ксяндзу Пробашчу Віктару Захарэўскаму**

з нагоды 10-й гадавіны святарскіх пасвячэнняў складаем сардэчныя віншаванні. Няхай зерне, засеянае Вамі на Божай ніве, прыносіць добры плён, Пан адорвае ўсімі неабходнымі ласкамі, у тым ліку добрым здароўем, а Дух Святы напаўняе мудрасцю, узмацняе і падтрымлівае ў цярпенні. Дзякуем за ўсмешку на твары. Нізкі паклон за працу ў нашай парафіі.

*З малітвай, парафіяне з касцёла свсв. Анёлаў-ахоўнікаў у Раготне*

**Дарагі Ксёндз Пробашч Віталій Внароўскі!**

У дзень Імянін і 8-й гадавіны святарскіх пасвячэнняў ад усяго сэрца жадаем, каб Езус дапамагаў Вам быць верным святаром. Няхай шлях, па якім крочыце за голасам Хрыста, будзе шчаслівы і благаслаўлёны, а сэрца напаўняецца дарамі Святога Духа. Няхай Марыя, Маці Міласэрнасці, прытуляе Вас да сябе як любімага сына. Дзякуем за адданую працу і добрае сэрца, а таксама за любоў да кожнага з нас.

*Вернікі з адэльскай парафіі*

**Паважанаму Айцу Казіміру Енджэйчаку**

з нагоды Дня нараджэння ад усяго сэрца жадаем скласці сардэчныя пажаданні: моцнага здароўя, душэўнага супакою, здзяйснення мар і намераў, стойкасці, добрых і зычлівых людзей на святарскім шляху, а таксама шчодрых дароў Святога Духа і апекі Маці Божай.

*Валерый, Вераніка і Яна з бабуляй*

**Паважанаму Ксяндзу Алегу Пятрашку**

з нагоды 10-годдзя святарскіх пасвячэнняў перасылаем сардэчныя пажаданні: здароўя, сіл, радасці, шмат Божых ласкаў і апекі Найсвяцейшай Маці. Няхай Твая паслуга будзе шчырай, сапраўднай і адданай, а Божае слова, якое абвяшчаеш, прыносіць цудоўны, шчодры плён.

*Бацькі і брат з сям'ёй*

**Паважанаму Ксяндзу Міхалу Ластоўскаму**

з нагоды 15-годдзя святарскіх пасвячэнняў перасылаем сардэчныя пажаданні: моцнага здароўя, душэўнага супакою, шчодрых Божых ласкаў, радасці, спакойных дзён і здзяйснення ўсіх мар. Дзякуем Вам за малітву, добрае і чулае сэрца, а таксама за тое, што заўсёды знаходзіце для нас час.

*Вернікі з парафіі Гродна-Аўгустовак*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Віктару Захарэўскаму**

з нагоды 10-й гадавіны святарскіх пасвячэнняў складаем сардэчныя пажаданні: здароўя, любові, веры, надзеі, Божага благаслаўлення і дароў Святога Духа. Няхай Маці Божая апекуецца Вамі, а святы Заступнік нястомна чувае за плячыма праз усё жыццё. Шчасці Божа!

*Вернікі з в. Моцевічы*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Валерыю Быкоўскаму**

з нагоды надыходзячых Імянін ад шчырага сэрца жадаем моцнага здароўя, душэўнага супакою, усіх Божых ласкаў на кожны дзень жыцця, апекі Маці Божай і святога Заступніка. Дзякуем за адданую працу, мудрыя словы, клопат пра касцёл і парафію.

*З малітвай і павагай, парафіяне і Ружанцовае кола св. Яна Непамуцэна са Станевічаў*

**Паважанаму Ксяндзу Паўлу Раманоўскаму**

з нагоды Дня нараджэння ад усяго сэрца жадаем добрага здароўя, душэўнага супакою, Божага благаслаўлення і людской зычлівасці. Няхай Святы Дух асвячае Ваш шлях на працягу ўсіх гадоў душпастырскай працы, Маці Божая выпрошвае сіл, цярплівасці і стойкасці ў жыцці, а Анёл-ахоўнік верна Вам служыць. Няхай кожны дзень паслугі Богу і людзям прыносіць радасць і задавальненне.

*З малітвай, Касцёльная рада, Апостальства дапамогі чысцовым душам і парафіяне з Радуні*

**Паважанаму Ксяндзу Андрэю Радзевічу**

з нагоды Імянін перасылаем сардэчныя пажаданні моцнага здароўя, душэўнага супакою, здзяйснення ўсіх мар, добрых і зычлівых людзей на святарскім шляху. Няхай кожны дзень будзе напоўнены Божай міласэрнасцю, праца прыносіць радасць і благаслаўлёны плён, а Найсвяцейшая Маці вядзе праз жыццё.

*З малітвай і павагай, Апостальства вечнай малітвы за святароў "Маргарытка", члены Апостальства дапамогі чысцовым душам і парафіяне з Радуні*

**Паважанаму Ксяндзу Вітольду Лазавіцкаму**

з нагоды Імянін перасылаем сардэчныя пажаданні ўсіх Божых ласкаў, апекі Найсвяцейшай Маці, здароўя, радасці, душэўнага супакою, добразычлівых людзей побач, сіл і стойкасці, каб далей ісці па шляху Хрыстовага святарства. Шчасці Божа!

*З малітвай, Марыя і Казімір Чайкоўскія з Новага Мішэва, Польшча*

**Паважанаму Ксяндзу Андрэю Вітэку**

з нагоды Імянін перасылаем сардэчныя пажаданні. Няхай кожны дзень будзе напоўнены Божай любоўю, а выконваемая праца прыносіць радасць і благаслаўлёны плён. Жадаем здароўя, сілы, супакою і добразычлівых людзей побач.

*Члены Апостальства дапамогі чысцовым душам з Воранава*

**Паважанаму Ксяндзу Здзіславу Вэдэру**

з нагоды Імянін жадаем Божага благаслаўлення, апекі Маці Божай і святога Заступніка, дароў Святога Духа, здароўя, радасці, сардэчных і шчырых людзей, а таксама благаслаўлёнага плёну ў душпастырскай працы.

*Члены Апостальства дапамогі чысцовым душам са Смаргоні*

**Паважанаму Ксяндзу Здзіславу Вэдэру**

з нагоды Імянін жадаю моцнага здароўя, стойкасці ў цяжкасцях, Божага благаслаўлення, апекі Найсвяцейшай Маці на далейшыя гады жыцця і святарскай паслугі. Няхай Бог заўсёды мае Вас у сваёй апецы. Шчасці Божа!

*З памяццю ў малітве, Андрэй*

**Паважанаму Ксяндз Пробашчу Міхалу Ластоўскаму**

з нагоды 15-годдзя святарскіх пасвячэнняў перасылаем букет сардэчных пажаданняў: моцнага здароўя, поспехаў ва ўсім, добрых і зычлівых людзей на святарскім шляху, шчодрых Божых ласкаў, сталай апекі святога Заступніка і Найсвяцейшай Панны Марыі. Няхай кожны Ваш дзень будзе напоўнены шчасцем і радасцю, на твары заўсёды госціць усмешка, а душу ахінае супакой.

*Удзячныя парафіяне з Капцёўкі*

**Паважанаму Ксяндзу Аляксандру Мацкевічу**

з нагоды 15-годдзя святарскіх пасвячэнняў жадаем здароўя, сіл для абвяшчэння Божага слова, радасці і няспыннай апекі Панны Марыі. Няхай Бог, які ўказаў Вам шлях да святарства, дапамагае ў рэалізацыі планаў, а Святы Дух шчодра спасылае свае дары.

*Вернікі з Капцёўкі*

**Паважаны Ксёндз Андрэй Агель!**

У бляску святасці Заступніка прагнем скласці простыя, але сардэчныя пажаданні. Здароўя, моцы, душэўнага супакою, каб доўга і добра служыць Таму, хто даў нам жыццё. Няхай благаслаўленне Хрыста пранікае ў сэрца, ахінае дабрынёй, любоўю і цеплынёй тых, каго Вы сустракаеце на сваім шляху. За кожнае слова, усмешку, зычлівасць, жэст, аказаны з любоўю, у сціплым дары складаем малітву ўдзячнасці.

*Вернікі, члены Апостальства дапамогі чысцовым душам з парафіі Ліда-Індустрыяльны*

**Паважанаму Айцу Валерыю Шэйгерэвічу**

з нагоды 9-й гадавіны святарскіх пасвячэнняў перасылаем сардэчныя пажаданні: Божага благаслаўлення на кожны дзень, шчодрых дароў Святога Духа, нястомнай апекі і дапамогі Маці Божай і святога Францішка Асізскага. Няхай добры Бог узнагародзіць Вас моцным здароўем, сілай, нязгасным запалам у шчырай і адданай службе Богу і людзям. Дзякуем за малітвы, зычлівасць, усмешку і добрае сэрца.

*Удзячныя парафіяне са Свіслачы і Поразава*

**Паважанаму Ксяндзу Юрыю Кузьмічу**

з нагоды Дня нараджэння складаю сардэчныя пажаданні: моцнага здароўя, душэўнага супакою, усіх Божых ласкаў, добрых і шчырых людзей побач. Дзякую за духоўную апеку, навуку і малітвы.

*Парафіянка*

**Паважаны Ксёндз Віктар Субель!**

Выказваем сардэчныя спачуванні і словы хрысціянскай падтрымкі ў сувязі са смерцю бацькі. Няхай міласэрны Бог прыме яго ў сваё Валадарства, а Вам дадасць моцы, каб перажыць цяжкую страту.

*З малітвай, парафіяне з Трабаў, члены Апостальства дапамогі чысцовым душам з Гіровічаў, Касцёльны камітэт і парафіяне з Сурвілішкаў*

**Паважанаму Ксяндзу Валерыю Быкоўскаму**

і яго родным у сувязі са смерцю бацькі перасылаем словы шчырага жалю і спачування. Няхай міласэрны Бог дадасць моцы, каб перажыць цяжар страты блізкага чалавека. Яднаемся з Вамі ў малітве за супакой яго душы.

*Францішканскі ордэн свецкіх, Касцёльны камітэт і парафіяне з Вялікіх Эйсмантаў, апостальства "Маргарытка"*

**Рэдакцыя пакідае за сабой права скарачаць і аб'ядноўваць пажаданні**

Інфармацыйна-рэлігійная газета Гродзенскай дыяцэзіі **Слова Жыцця**; Галоўны рэдактар **кс. Юрый Марціновіч**; Заснавальнік: **Гродзенская рыма-каталіцкая дыяцэзія**; год заснавання **1997**; рэгістр. **№1085**; Выдавец: **курыя Гродзенскай дыяцэзіі**
Рэдакцыя газеты: **230025 Гродна, вул. К. Маркса, 4;** Юрый Лавыш, Ангеліна Пакачайла; тэл. **152/ 756438**; e-mail: **slowo.grodnensis@gmail.com.**; **http://www.slowo.grodnensis.by;**
Друк: **ГАУПП«Гродзенская друкарня»,** ЛП 02330/39 от 27.03.2014 г. 230025 Гродна, вул. Паліграфістаў, 4; нумар заказу 5787; тыраж 5240; аб'ём газеты – 2 умоўна друкарскія лісты; Якасць друку адпавядае якасці прадстаўленых дыяпазітываў; цана адвольная